# Голас Радзімы

17 СНЕЖНЯ 1998 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 2000 рублёў.

№ 50
(2608)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі
Бацькаўшчыны. Выдаецца з 1955 г.

**НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ**

## Мікола ЕРМАЛОВІЧ: «ВЕРУ Ў БЕЛАРУСЬ, У НАШУ МОЛАДЗЬ»

*Імя Міколы Ермаловіча ведаюць многія. Гэты чалавек усё жыццё разгадвае таямніцы гісторыі роднай краіны, піша кнігі. Але хто ведае, што за асоба збудавала вакол сябе сцены з кніг і летапісаў, якія думкі схавалі вочы за таўшчэзнымі акулярамі ў чорнай аправе, якія духоўныя багацці назапашаны за вялікае жыццё? Вось на гэтыя пытанні я шукала адказ у гутарцы з вядомым беларускім гісторыкам Міколам Ермаловічам, я папрасіла яго выказаць свае меркаванні, зірнуўшы на нашу рэчаіснасць з глыбінь стагоддзяў.*



**— Мікола Іванавіч, у гэтым годзе вы падвялі рысу: поўнасцю закончылі працу з аб'ёмнай назвай "Старажытная Беларусь". Давайце ўдакладнім, якія этапы гісторыі вы разглядалі на працягу шэрагу гадоў.**

— Сапраўды, гісторыя старажытнай Беларусі пісалася не адзін год. Невялічкая частка пад назвай "Па слядах аднаго міфа" была закончана ў 68-м годзе і да 88-га ляжала ў шафе. Кніга "Старажытная Беларусь" друкавалася часткамі ў часопісе "Маладосць" і толькі ў пачатку 90-х гадоў выйшла асобным выданнем. Перыяд да пераходу ў склад Расіі будзе выходзіць у часопісе "Маладосць" да канца 1998 года.

**— Безумоўна, заканчэнне такой працы — вялікае дасягненне. Але што ж далей, што цікавіць вас зараз!**

— Гісторыя заўсёды мае свае таямніцы. Планаў на будучыню нават зашмат. Папершае, не ўсе навукоўцы прымаюць маю канцэпцыю з'яўлення і ўтварэння зямлі беларускай. Так што першым пунктам у маіх планах стаць абавязковы адказ апанентам па ўсіх пытаннях. Асноўныя — месцазнаходжанне старажытнай Беларусі, з'яўленне назвы Літва і сталіцы дзяржавы Навагрудка. Акрамя таго, зараз я зацікавіўся развіццём гаманаўскага руху на Беларусі напрыканцы мінулага стагоддзя...

**— Адкуль такая цікавасць да гісторыі! Дзе пачаўся шлях хлопца Міколы да гісторыка Міколы Іванавіча Ермаловіча!**

— Нарадзіўся я амаль пад Мінскам у вёсцы Малыя Навасёлкі Дзяржынскага раёна, у 1921 годзе. Там прайшло маё дзяцінства. Менавіта там, на ўроку беларускай мовы ў 2-м класе, пачуў, што Полацк — самы старажытны горад Беларусі. Гэты факт так зацікавіў мяне, што я з захапленнем пачаў чытаць кнігі па гісторыі, якія змог знайсці ў бібліятэцы. Менавіта там, у Малых Навасёлках, скончылася маё дзяцінства, калі ў 37-м арыштавалі бацьку і, як злачынцу, асудзілі без права перапіскі — што азначала расстрэл. Па некаторых меркаваннях, ён і быў расстраляны ў Курапатах. Прыкладна праз месяц мяне выключылі са школы.

**— З-за бацькі!**

— Настаўніца загадала нам вывучыць урывак з "Пісьма вялікаму Сталіну". Да школы мы хадзілі пешшу 6 кіламетраў і за гэты час вучылі некаторыя з урокаў, што не паспявалі зрабіць дома. На жаль, кніжка, па якой я вучыў урок, упала ў бруд. Гэта здарылася з-за таго, што нехта з сяброў мяне штурхнуў, я падняў яе і абтрос. На гэтым выпадак быў забыты. Аднак на наступны дзень мяне выклікалі да дырэктара. "Як ты мог кінуць у бруд пісьмо нашага народа да вялікага Сталіна?! Ты выключаны!" — вось амаль усё, што мне было сказана. На гэтым маё дзяцінства скончылася.

**— А як жа вы атрымалі вышэйшую адукацыю!**

— Здаў экстэрнам экзамены за школу і паступіў у Мінскі педагагічны інстытут. Аднак скончыў я філалагічны факультэт ужо пасля вайны. Працаваў настаўнікам у Мардовіі, інспектарам Суражскага раёна Віцебскай вобласці, выкладчыкам Маладзечанскага настаўніцкага інстытута. Потым у мяне сапсаваўся зрок, і я вымушаны быў пайсці на пенсію і ўсутыч заняўся гісторыяй. Пачаў вышукваць матэрыялы і летапісы. Галоўнае, імкнуўся не прапусціць ніводнага факта, ніводнай лічбы. Гэта сапраўды было складана, бо, напрыклад, Полацкі летапіс захаваўся не цалкам. Некаторыя яго часткі зніклі, але пры гэтым пэўныя звесткі былі выпісаны ў свой час Тацішчавым і некаторымі іншымі навукоўцамі. Трэба было разгледзець усе супярэчнасці і выказаць свае думкі і меркаванні.

**— Але Мікола Ермаловіч вядомы не толькі як пісьменнік і гісторык. Я ведаю, вы яшчэ і вершы пішаце!**

— Ну, калі ўжо пайшла такая гаворка, то менавіта з вершаў мая творчая біяграфія і пачалася. У 1936 годзе быў надрукаваны мой першы верш. А зараз... Зараз у мяне ёсць так званы "Сшытак вершаў", але гэта не для друку, а для душы, для сяброў. У асноўным жа я лічу,

(Заканчэнне на 3-й стар.).

**АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ**

## СЛОВА ДА ЧЫТАЧОЎ

**Шаноўны сябар! Як толькі новы нумар нашай газеты выходзіць з друкарскай машыны, ён адразу трапляе ў паштовае аддзяленне, а адтуль пакунак з пахам фарбы адпраўляецца ў доўгі шлях, у 43 краіны свету. Да Вас, наш чытач. Але, на жаль, мы не заўсёды можам даведацца, ці атрымліваеце Вы газету, наколькі публікацыі ў ёй задавальняюць Вашу цікавасць.**

**Так складваюцца абставіны, што нам, каб дасылаць Вам газету "Голас Радзімы" ў далейшым, трэба ведаць, ці зацікаўлены Вы ў гэтым. Спадзяемся на разуменне і падтрымку. Чакаем Вашага тэрміновага паведамлення.**

**● Тэлефон: (375-17) 13-32-80.**

**● Факс (375-17) 43-45-73.**

**● E-mail: taisa @ irex. minsk. by**

***Адрас: 220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44. Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы".***

**ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАНКА:**

## АД 4 ДА 14

**● Калі ты хочаш навучыцца чытаць па-беларуску, пазнаёмся з "Лясной азбукай".**

**● Калі ты ўмееш чытаць па-беларуску і па-англійску, пазабаўляйся разам з Дадо.**

**● Калі табе цікавы твой радавод, зазірні ў мінулае.**



**4–5 стар.**

## Тыдзень: Міжнародны агляд. Хроніка падзей. Фотафакты.

● Юрась ДОМНІЧ.

### НА КАПІТАНСКІМ МОСЦІКУ ДЫПЛАМАТЫЧНАГА КАРАБЛЯ БЕЛАРУСІ – ЗМЕНЫ

Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка шэрагам апошніх указаў цалкам змяніў структуру органаў дзяржаўнага кіравання ў галіне знешняй палітыкі і эканомікі. Цяпер функцыі Міністэрства замежных спраў, Міністэрства знешніх эканамічных сувязей і апарату міністра па справах СНД будзе выконваць толькі адно ведамства — рэфармаванае Міністэрства замежных спраў.

Разам са структурнымі пераўтварэннямі адбыліся і кадравыя змены ў кіраўніцтве міністэрства. Замест прафесара Івана Антановіча, які амаль на працягу двух апошніх гадоў узначальваў знешнепалітычнае ведамства Беларусі, кіраўніком міністэрства прызначаны Урал Латыпаў, які быў памочнікам кіраўніка дзяржавы па міжнародных справах.

Ужо 7 снежня міністр У. Латыпаў меў сустрэчу з Упаўнаважаным прадстаўніком Еўрапейскага саюза Дзітмарам Штудэманам. Акалічнасці перамоў пакуль не паведамляюцца. Але, калі падчас іх адбыўся нейкі зрух, то неўзабаве вынікі стануць вядомымі па канкрэтных дзеяннях беларускіх уладаў і замежных дыпламатаў.

### ПРЫЯРЫТЭТ РАСІЙСКІХ РЭГІЁНАЎ ЗАХОЎВАЕЦЦА

На мінулым тыдні знешнепалітычныя і эканамічныя кантакты Беларусі нічым прынцыпова новым не адрозніваліся ад папярэдніх. На гэты раз з дзелавым візітам на беларускай зямлі пабывала кіраўніцтва Рэспублікі Алтай і Новасібірскай вобласці Расійскай Федэрацыі.

Нельга сказаць, што дагэтуль тавараабарот паміж Беларуссю і Алтаем развіваўся надта вынікова: за апошнія дзевяць месяцаў яго памер склаў 3,5 мільёна долараў ЗША, што састаўляе толькі 0,08 працэнта да агульнага тавараабароту Беларусі з Расіяй. Але і такі гандаль быў карысным для нашай дзяржавы тым, што праходзіў са станоўчым сальда ў паўтара мільёна долараў. На сустрэчы з кіраўніком Рэспублікі Алтай С. Зубакіным нечакана высветлілася даволі перспектыўная галіна для супрацоўніцтва: Алтай можа забяспечыць Беларусь воўнай, прычым нават была выказана гатоўнасць стаць пасрэднікам у эканамічных стасунках Беларускай дзяржавы з суседняй Манголіяй і паўночнымі раёнамі Кітая.

### БЕЛАРУСКІЯ МАЗы ЗАВАЁЎВАЮЦЬ ІНШЫЯ КАНТЫНЕНТЫ

У бліжэйшы час кантакты з Манголіяй могуць пашырыцца яшчэ дзякуючы адной акалічнасці. На мінулым тыдні пасол Беларусі ў Кітаі Вячаслаў Кузняцоў уручыў даверчыя граматы кіраўніцтву Манголіі і стаў, такім чынам, прадстаўніком беларускіх інтарэсаў у гэтай дзяржаве па сумяшчальніцтву. Акрамя перамоў з прэзідэнтам Нацагійн Багабандзі, ва Улан-Батары В. Кузняцоў сустрэўся з выконваючым абавязкі міністра знешніх адносін Манголіі, з прадстаўнікамі Таварыства беларуска-мангольскай дружбы, з кіраўніцтвам сталіцы краіны. А з мэрам горада Дархан абмяркоўвалася пытанне адносна магчымасці стварыць сумеснае прадпрыемства па вытворчасці аўтамабільнай тэхнікі.

Гэта цікавы факт, бо ён сведчыць, што Беларусь усур'ёз пачынае "пакараць" айчыннымі МАЗамі амаль усе кантыненты свету. Напрыклад, не вельмі даўно было створана СП у Егіпце, якое, арыентуючыся на патрэбы паўночнаафрыканскага рынку, штогод будзе выпускаць каля 500 грузавікоў. Адначасова пачалася вытворчасць МАЗаў у Аргенціне, дзе штогод з канвеера будуць сыходзіць больш за 1 000 аўтамабіляў для патрэб лацінаамерыканскіх пакупнікоў. На мінулым тыдні пачало дзейнічаць сумеснае беларуска-ўкраінскае прадпрыемства па зборцы МАЗаў на Міронаўскім аўтаагрэгатным заводзе. Патрэбу ўкраінскага рынку — 2 000 грузавікоў — гэтая вытворчасць пакуль задаволіць не зможа, але разлік ідзе на перспектыву. У беларускім друку з'явіліся таксама звесткі, што кіраўніцтва Мінскага аўтазавода вядзе перамовы аб адкрыцці сумеснай вытворчасці ў В'етнаме, каб прадставіць у поўнай меры сваю прадукцыю і на ўсходнеазіяцкіх рынках.

### СЕМ ГАДОЎ РАЗАМ І ПААСОБКУ

7 снежня споўнілася сем гадоў з дня стварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Гэтая дата прайшла ў Мінску знешне незаўважна. Раніцай адбылася непрацяглая сустрэча Выканаўчага сакратара Садружнасці Барыса Беразоўскага з новым міністрам замежных спраў Беларусі У. Латыпавым, на якой бакі абмеркавалі перспектывы рэфармавання органаў СНД, а вечарам без асаблівай пампезнасці ў штаб-кватэры СНД у беларускай сталіцы Б. Беразоўскі даў прыём з нагоды чарговай гадавіны. На ўрачыстасці прысутнічалі прадстаўнікі ўсіх дзяржаў Садружнасці, якія пастаянна акрэдытаваны ў Мінску.

У час, калі ў Мінску гучалі тосты за будучыню СНД, у Санкт-Пецярбургу працавала 12-я сесія Міжпарламенцкай асамблеі СНД. Удзельнікі пленарных пасяджэнняў, дэпутаты нацыянальных парламентаў краін Садружнасці прадоўжылі работу над праваой асновай міждзяржаўнага ўтварэння. За два дні сесіі заканадаўчая база пашырылася за кошт яшчэ некалькіх новых дакументаў.

Снежань наогул абяцае быць вельмі насычаным на мерапрыемствы, у цэнтры ўвагі якіх будуць перспектывы супрацоўніцтва і інтэграцыі ў межах Садружнасці. Вядома, што да канца года павінна адбыцца таксама сустрэча кіраўнікоў урадаў і кіраўнікоў краін-удзельніц СНД.

● **ГРАНІЦА**

На пасяджэнні Міжурадавай беларуска-польскай камісіі, што прайшло нядаўна ў Беластоку, абмяркоўваліся пытанні развіцця памежнай інфраструктуры і ўпарадкавання новых пагранпераходаў.

Абодва бакі абмеркавалі пытанне аб будаўніцтве новага моста ў раёне пагранпераходу Кукурыкі-Казловічы. Аднак самым складаным застаецца пошук неабходных сродкаў для ажыццяўлення праекта. Прадстаўнікі Беларусі выказалі неабходнасць звароту ў ЕС з просьбай аб выдзяленні фінансавання.

● **ПРАЕКТЫ**

У Гродне пачалі рэалізацыю праекта па развіццю і ахове прыроды еўрарэгіёна "Нёман". Яго мэта — стварыць умовы для развіцця на Гродзеншчыне міжнароднага і экалагічнага турызму. Замежныя эксперты вывучаць гістарычныя і прыродныя багацці нёманскага краю, акажуць садзейнічанне фірмам, якія жадаюць укласці сродкі ў развіццё турыскай інфраструктуры.

● **ПРАМЫСЛОВАСЦЬ**

За студзень-кастрычнік гэтага года аб'ём прамысловай прадукцыі ў цэлым па рэспубліцы ў параўнанні з адпаведным мінулагоднім перыядам у супастаўных цэнах павялічыўся на 9,9 працэнта.

Як паведамілі ў Міністэрстве статыстыкі і аналізу, на 19 працэнтаў, у прыватнасці, перавышаны мінулагоднія паказчыкі ў чорнай металургіі, лясной, дрэваапрацоўчай і цэлюлозна-папяровай прамысловасці. На мінулагоднім узроўні працуе паліўная прамысловасць, а вось аб'ёмы прадукцыі энергетычнага комплексу на 9,1 працэнта ніжэйшыя за леташні паказчык.

● **ФЕСТЫВАЛІ**

На пачатку снежня ў Мінску прайшоў Міжнародны фестываль праваахоўнага кіно, прысвечаны 50-годдзю прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Яго арганізатары — студыя "Тацяна" ("Беларусь фільм"), прадстаўніцтва ААН/ПРААН у Беларусі, Гільдыя кінарэжысёраў Расіі, Маскоўская гільдыя акцёраў тэатра і кіно.

Права чалавека на любоў, жыццё на чыстай планеце, права мець свой погляд на свет і грамадства, працы, якія ў ім адбываюцца, права на ўласную годнасць — вось далёка не ўсе аспекты, якія закранаюцца ў мастацкіх і дакументальных стужках, што былі прадстаўлены на фестываль з многіх краін. Сярод іх — "Мэлвін Ван Піблз. Толькі для дарослых" (М. Даніэльз, Францыя), "Бег дзеля жанчыны" (Р. Хоберт, Швецыя), "Смяротны прыгавор" (П. Яха, Індыя), "Галоп" (К. Занусі, Польшча), "Змяіная крыніца" (М. Лебедзеў, Расія).

Дэманстравалася таксама некалькі дакументальных відэастужак з калекцыі буйнога Нью-Йоркскага фестывалю праваахоўнага кіно. Сярод фільмаў, прадстаўленых беларускімі кінематографістамі — "Палюбі мяне чорненькім" Г. Адамовіч, "Лёсы людскія" А. Бокача, "пабачыць перамогу" У. Цеслюка...

Прыцягнула ўвагу гледачоў і выстава фотадакументаў вядомых кінадзеячаў СССР, якія ў свой час былі абвешчаны "ворагамі народа".

Марта КОСЦІЧ.



9 снежня, у дзень нараджэння Максіма Багдановіча, у Мінску да помніка паэту леглі жывыя кветкі ад паклоннікаў яго паэзіі і супрацоўнікаў літаратурнага музея Максіма Багдановіча.

*На здымку: у час укладання кветак.*



Лідскі піваварны завод — адзін з найстарэйшых у Беларусі. Сёння ён вырабляе 24 тысячы бутэлек у гадзіну больш пятнаццаці гатункаў піва. Многія з іх прадстаўляліся на міжнародных выставах-конкурсах у Мінску, Ленінградзе, Маскве, Сочы і ўзнагароджаны залатымі, сярэбранымі і бронзавымі медалямі.

На здымку: у піўным бары "Лідскае піва" бармен Андрэй Зміровіч.

Фотахроніка БелТА.

АФІЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ

## ПРАВЫ «НЕТЫТУЛЬНЫХ»

У Мінску па заказу Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей выпушчаны "Зборнік міжнародных і рэспубліканскіх дакументаў аб нацыянальна-культурным развіцці нацыянальных супольнасцей Беларусі". У яго падрыхтоўцы брала ўдзел рэдакцыйны савет — А. Білык, І. Яновіч, Ю. Уральскі, Т. Стружэцкі і непасрэдны складальнік Ніна Ходар. У кнізе выкарыстаны дзве мовы — руская і беларуская, а таму кола яе карыстальнікаў мае быць вельмі шырокім. Выданне зборніка прымеркавана да 50-годдзя з дня прыняцця Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Ва ўступным слове "Ад укладальнікаў" гаворыцца:

**— Зборнік з'яўляецца першай у нашай дзяржаве спробай сабраць пад адной вокладкай дакументы канкрэтна вызначанага тэматычнага накірунку: правы "нетытульных" нацыянальных супольнасцей, якія пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, і магчымасці іх рэалізацыі.**

**У зборнік уключаны тэкст Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, пералік міжнародных канвенцый, пактаў, пратаколаў па правах чалавека, да якіх далучылася Рэспубліка Беларусь, асобныя дакументы і вытрымкі з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, законаў аб правах нацыянальных супольнасцей.**

**Асобны раздзел зборніка складаецца з дакументаў, якія даюць падставы нацыянальна-культурным аб'яднанням больш кваліфікавана арганізаваць сваю работу.**

**Дакументы прадстаўлены з афіцыйных крыніц.**

**Названы зборнік ухвалены Каардынацыйным саветам па справах нацыянальных супольнасцей Беларусі пры Дзяржаўным камітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь.**

У зборнік уключаны шэраг дакументаў, якія маюць як асноватворны, так і больш вузкі, прыкладны характар. На старонках кнігі змешчаны адпаведныя тэме вытрымкі з Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, сярод якіх артыкул 50:

**"Кожны мае права захоўваць сваю нацыянальную прыналежнасць, таксама як ніхто не можа быць прымушаны да вызначэння і ўказання нацыянальнай прыналежнасці.**

**Знявага нацыянальнай годнасці караецца згодна з законам.**

**Кожны мае права карыстацца роднай мовай, выбіраць мову зносін. Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучання".**

Друкуюцца таксама тэксты Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, Канвенцыі аб забеспячэнні правоў асоб, што належаць да нацыянальных меншасцей, спіс адпаведных міжнародных канвенцый, пактаў, пратаколаў, да якіх далучылася наша краіна, дзяржаўныя заканадаўчыя акты. Сярод апошніх Закон Рэспублікі Беларусь "Аб нацыянальных меншасцях у Рэспубліцы Беларусь", артыкул 5 якога кажа:

**"Рэспубліка Беларусь, паважаючы правы чалавека, гарантуе грамадзянам Рэспублікі Беларусь, якія адносяць сябе да нацыя-**

НА МЯЖЫ СТАГОДДЗЯЎ

Мікола ЕРМАЛОВІЧ:

# «ВЕРУ Ў БЕЛАРУСЬ, У НАШУ МОЛАДЗЬ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

што мае вершы не паэзія, а думкі, афармленыя ў вершаваную форму.

**— Мікола Іванавіч, цяпер у грамадстве пануе думка, што ў канцы нашага тысячагоддзя чалавецтва напаткаў не толькі фінансавы і палітычны крызіс, але і, што больш цяжка, заняпад агульначалавечых каштоўнасцей і маралі. Як вы лічыце, можа быць, гэта новы своеасаблівы штуршок да развіцця грамадства, звычайная змена паняццяў і каштоўнасцей?**

— Ведаеце, я параўноўваю нашу індустрыяльную эпоху з антычнасцю. Падкрэсліваю, гэта мой асабісты погляд. Заняпад антычнасці пачаўся з заняпаду чалавечай маралі. Калі пачаліся вакханаліі і русаліі, калі па краіне пачалі хадзіць вандроўнікі-люмпены, а натоўп патрабаваў "хлеба і відовішчаў", то, безумоўна, рэакцыяй на такі заняпад стала ўзнікненне хрысціянства. Тады рэлігія прапагандавала строгую мараль. Першыя хрысціяне жылі ў катакомбах і падзямеллях, цураліся распусты, і ў рэшце рэшт іх рэлігія стала дзяржаўнай. А адбылося ўсё менавіта ў той час, калі людзям спатрэбіўся Богабаронца з больш сур'ёзнымі маральнымі каштоўнасцямі, менш набліжаны да людзей, чым Богі-алімпійцы.

І сёння, нягледзячы на ўсе дасягненні ў тэхніцы, фізіцы і іншых навуках, мараль падае. І, на вялікі жаль, хрысціянская царква ўжо няздольная, як некалі, вырataваць людзей заклікамі да высокай маралі. Гэта можа абярнуцца вялікай катастрофай для ўсяго чалавецтва.

**— Народ Беларусі шмат чаго перажыў за сваю гісторыю. Як вы лічыце, ці ёсць нешта адзінае, што дае права і жыхару княства Літоўскага, і грамадзяніну Рэчы Паспалітай, і нашаму суайчынніку звацца беларусам?**

— Самае паказальнае для беларусаў — гэта тое, што яны пасяліліся на вельмі бойкім месцы. І, нягледзячы на шматлікія войны, тут змог сфарміравацца народ са сваёй культурай, мовай і звычаямі. Адно гэта служыць пацвярджэннем факта, што беларусы — адна з самых жыццяздольных нацый. А наконт самой назвы, тут сапраўды ёсць шмат тэорый. Назвы могуць фарміравацца ў любы час і на любым месцы, а потым пaступова перайсці на іншае. Вось, напрыклад, у XII стагоддзі пад Белай Руссю разумелася Растова-Суздальская зямля (фактычна Маскоўшчына). Калі памёр Юрый Даўгарукі, то баяры сталі прасіць яго сына: "Будзь князем у нашай Белай Русі". Па некаторых звестках, у 1169 годдзе ён прыняў тытул Вялікага князя Беларускага. Але ў сучасным значэнні гэтага слова ён жа не быў беларусам. На гэтай падставе некаторыя маглі б сказаць, што гэта быў наш князь і наша зямля, што было б абсурдам. Што датычыць самой назвы, з цягам часу яна перайшла на захад, а там засталася назва Масковія. Менавіта такую сітуацыю выкарысталі і літоўцы.

**— Вы маеце на ўвазе назву — Вялікае княства Літоўскае?**

— Так. Гэта была тэрыторыя Верхняга Панямоння, тэрыторыя Беларусі, менавіта адсюль пайшоў тытул Вялікага князя Беларускага. Як мы не маем права лічыць маскоўскага князя беларускім у сучасным разуменні гэтага слова, так ніхто не можа лічыць Міндоўга і астатніх князёў літоўцамі ў сучасным разуменні гэтага слова. Доўгі час наша гістарычная навука не закранала данага пытання. Можа менавіта таму пазней узнікла тэорыя пра заваяванне літоўцамі нашых зямель і пра выратавальныя войны, якія вяліся тут маскоўскімі князямі супраць літоўскіх захопнікаў. Гэтую ж сітуацыю выкарысталі жамойты і настойвалі на "ўзяцці пад апеку" бедных літоўскіх земляў, спустошаных татарамі (Навагрудак і іншыя). Такім чынам, нягледзячы ні на што, назва Літва — гэта перш за ўсё назва беларусаў, якая з цягам часу перайшла на іншыя землі, а сюды прыйшла назва Белая Русь. І калі нехта кажа, што нашай дзяржаўнасці не існавала, то гэта паказчык недахопу ведаў. Просты факт: 700 тамоў дакументаў усяго княства Літоўскага былі напісаны менавіта на беларускай мове, і сярод безлічы гэтых папер няма ніводнай, напісанай на сучаснай літоўскай мове. А спроба растлумачыць гэты факт тым, што літоўскія князі вымушаны былі прыстасоўвацца да мовы і звычаяў нашага народа і таму афармлялі ўсе дакументы па-беларуску, выглядае абсурднай. Так што магу сказаць адназначна: беларусы маюць права на сваю назву і дзяржаўнасць. Проста некалькі стагоддзяў Беларусь як дзяржава была прыніжана і беларусы як народ сталі лічыцца пасіўнымі людзьмі, без сваёй гісторыі, мовы і дзяржавы. Прыкладаў жа з рознымі назвамі ў гісторыі вельмі шмат: Англія — Брытанія, Украіна — Русь і г. д.

**— Мікола Іванавіч, як сталы чалавек, як гісторык, вы пражылі вялікае і цікавае жыццё. Да якіх высноў прыйшлі, што чакае нашу Радзіму заўтра? З чым беларусы, на ваш погляд, прыйдуць у новае тысячагоддзе?**

— На жаль, радасных перспектыў я не бачу. Гісторыя Беларусі на працягу шматлікіх стагоддзяў — суцэльныя войны. І нават геаграфічнае становішча — скрыжаванне шляхоў — садзейнічала гэтаму. Вось ужо 53 гады мы не ведаем, што такое вайна, але ведаем іншае гора — Чарнобыль. І ў XXI стагоддзі барацьба з чарнобыльскай навалай павінна стаць адной з асноўных нашых праблем. Я, як грамадзянін сваёй краіны, безумоўна, хацеў бы бачыць жыццяздольнасць беларускага народа і хацеў бы спадзявацца, што ў XXI стагоддзі Беларусь даб'ецца важкіх поспехаў у развіцці сваёй дзяржаўнасці, культуры і мовы. Спадзяюся, што ў нас стане сіл і магчымасцей пераадолець усе цяжкасці і стаць упоравень з іншымі народамі ў эканамічным і духоўным развіцці. І яшчэ, я вельмі спадзяюся, што наша моладзь даб'ецца, каб краіна , як казаў Янка Купала, "змагла заняць свой пачэсны пасад між народамі".

Гутарку вяла **Юлія ВАНІНА.**

# СУПОЛЬНАСЦЕЙ

**нальных меншасцей, роўныя палітычныя, эканамічныя і сацыяльныя правы і свабоды, у тым ліку:**

**а) права на атрыманне дапамогі з боку дзяржавы ў справе развіцця нацыянальнай культуры і адукацыі;**

**б) права вывучэння і карыстання роднай мовай;**

**в) права на друк і распаўсюджванне інфармацыі на роднай мове;**

**г) права на ўстанаўленне культурных сувязей з суайчыннікамі за межамі Рэспублікі Беларусь;**

**д) права веравызнання любой рэлігіі, правядзення нацыянальных і рытуальных абрадаў на роднай мове;**

**е) права на захаванне сваіх нацыянальных традыцый, развіццё прафесіянальнага і самадзейнага мастацтва;**

**ж) права на стварэнне сваіх нацыянальных культурных таварыстваў (аб'яднанняў);**

**з) права на падставе ўсеагульных, роўных і прамых выбараў быць абранымі ў органы дзяржаўнай улады Рэспублікі Беларусь;**

**і) права займаць любыя пасады ў органах дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь".**

Трэба адзначыць, што выпуск зборніка — акцыя своечасовая і надзвычай актуальная. На Беларусі, як сведчыць перапіс насельніцтва 1989 года, кожны пяты грамадзянін — прадстаўнік так званай "нетытульнай" нацыі. Усяго ж у 1989 годзе ў краіне пражывалі прадстаўнікі 123 нацыянальнасцей. Найбольшымі сярод іх з'яўляюцца: рускія (1 342,1 тысячы чалавек, 13,3 працэнта ад агульнай колькасці насельніцтва), палякі (417,7 тысячы чалавек, 4,1 працэнта), украінцы (291 тысяча чалавек, 2,9 працэнта), яўрэі (112 тысяч чалавек, 1,1 працэнта), татары (12,5 тысячы чалавек, 0,13 працэнта), цыгане (10,8 тысячы чалавек, 0,11 працэнта). 11 нацыянальных меншасцей (азербайджанцы, армяне, грузіны, казахі, латышы, літоўцы, малдаване, мардва, немцы, узбекі, чувашы) налічвалі ад 1 да 10 тысяч чалавек.

Палякі, яўрэі, літоўцы, рускія, цыгане ўжо многія стагоддзі пражываюць на землях Беларусі і з'яўляюцца аўтахтоннымі, "карэннымі" этнасамі для Беларусі нароўні з беларусамі. Большасць прадстаўнікоў іншых нацыянальных меншасцей перасяліліся на тэрыторыю Беларусі ў XX стагоддзі, у асноўным пасля 1944 года.

Да сённяшняга часу прасочваецца тэндэнцыя павелічэння долі нацыянальных меншасцей у насельніцтве рэспублікі. У 1999 годзе мае адбыцца чарговы перапіс насельніцтва, што дазволіць удакладніць яго нацыянальны склад, які падвергся за апошняе дзесяцігоддзе значным зменам у выніку інтэнсіўных міграцый.

Характарызуючы сітуацыю, звязаную са становішчам нацыянальных меншасцей у Беларусі, неабходна адзначыць перш за ўсё адсутнасць якіх-небудзь сутыкненняў і канфліктаў на этнічнай, расавай і канфесійнай падставе, адзінства этнічных і канфесійных састаўляючых беларускага грамадства, прававую роўнасць рэлігійных і нацыянальных груп. Рэспубліка Беларусь з'яўляецца адной з нямногіх рэспублік былога СССР, у якой не было зафіксавана ніводнага міжнацыянальнага ці міжканфесійнага канфлікту.

Усё гэта — плён актыўнага намагання дзяржавы, падмуркам якога з'яўляецца моцная заканадаўчая база, адлюстраваная ў вышэйпазначаным Зборніку дакументаў.

НАША МАРКА





Прадукцыю з маркай беларускага металургічнага завода добра ведаюць не толькі ў нас у рэспубліцы і краінах СНД. Яе ахвотна купляюць у Германіі, ЗША, Італіі, Швецыі, Нарвегіі, Францыі, Бельгіі, Кітаі, Егіпце, Сінгапуры. А ўсяго больш за сорак краін свету выкарыстоўваюць прадукцыю БМЗ. У 1994 годзе на прадпрыемстве пачала дзейнічаць сістэма якасці па стандарту ІСО 9002, а гэта значыць, што прадукцыя завода адпавядае самым высокім сусветным стандартам. Цяпер тут вядзецца буйнамаштабная рэканструкцыя, мэта якой — павялічыць выпуск катанкі і металакорду, знізіць сабекошт і энергаёмістасць прадукцыі. У выніку гэтай работы выпуск прадукцыі павялічыцца ў паўтара раза.



*На здымках: генеральны дырэктар Беларускага металургічнага завода Юрый Феакціставу; травільшчык-гальванік Вячаслаў Русіновіч; інжынер металаграфічнай лабараторыі Таццяна Уласенка.*

*Фота Аляксандра ТАЛОЧКІ, БелТА.*

# ДЗІЦЯЧАЯ ЧЫТАН

● Ты хочаш навучыцца чытаць па-беларуску? Тады пазнаёмся з "Лясной азбукай".

● Калі ты ўмееш чытаць па-беларуску і па-англійску, можаш пазабаўляцца разам з Дадо. Ён жыве ў часопісе "Hello", які выдаецца ў Мінску.

● А калі табе цікавы твой радавод, зазірні ў мінулае. Спачатку з дапамогай бацькоў ці бабулі з дзядуляй намалюй сваё дрэва жыцця, дзе знойдзецца месца ўсім, хто складае тваю сям'ю ў розных пакаленнях. А калі цябе захопяць таямніцы гісторыі, пачні чытаць складзеную на пачатку XII стагоддзя "Аповесць мінулых гадоў". Для тваіх аднагодкаў гэты твор падрыхтаваў Уладзімір Ягоўдзік.

## ЖЫВАЯ АЗБУКА

Лес заве, красою вабіць
З самай ранняе вясны,
Можа, вас каго цікавіць
Азбука і дрэў лясных!

*А. Дзеружынскі.*

### А СІНА

Азораны,
Асветлены
Вясновым сонцам
Бор,
Асіна
Апранае
Пяшчотны свой убор.

Апратку
Адзявае,
Сатканую
З лісткоў,
Імкнецца ў рост,
Спяшае
Кранулца
Аблакоў.

### Б ЯРОЗКА

Бярозка
Белая,
Бялянка
Ступіла моўчкі
На палянку.

Бяроста,
Бы сняжок,
Бялее,
Расце
Бярозка,
Зелянее.

### В ЯРБА

Вярба,
Вярба,
Вярбінка...
Ветрыкі
Вясновыя
Распушылі
Коцікі
Пышныя
Вярбовыя.

### Г РАБ

Гнуткі
Граб
Галіны
Гнуў,
Голлем
Глог ён
Ахінуў,
Граб
Зімой халоднай
Глог
Ад марозаў-сцюж
Бярог.

### Д УБ

Дрывасек
Заўважыў
Дуб:
"Дуб
Падыдзе мне
На зруб".

Перадумаў
Дрывасек:
"Шкода
Дрэва".
Дуб не ссек.

Вырас
Дуб —
Дубровы
Дар,
Чуб узняў
Да самых хмар.

### Е ЛКА

Елка
Па ляску
Гуляе,
Елку лашчыць,
Абдымае:
— Будзь сяброўкаю,
Ялінка, —
Кажа
Елачцы
Дзяўчынка.

І схіляе голаў
Елка,
Задаволеная
Еўка.

### Ё ЛКА

З лесу
Ёлачка прыйшла,
Як вясёлка,
Расцвіла...

І на ёй
Гараць шары,
А пад ёй
Яе сябры...

Ёсць
Мядзведзік,
Ёсць і зай,
Быстраногі пагуляй.

Ёлка,
Ёлка,
Новы год,
Дзеці
Ладзяць
Карагод.

### Ж АСЦЁР

Жарам палае
На ўзлеску касцёр —
Жоўты ды
Жоўта-чырвоны
Жасцёр.

### З ЯНОВЕЦ

Зяновец-ракітнік
Кусціўся над рэчкай,
Згінаўся,
Згушчаўся
Над быстрацечкай...
Сабой
Засланяў,
Захінаў лугавіну,
Лістотаю
Лашчыў
Пяшчотна каліну.

### І НЖЫР

Інжыр —
Смакоўніца —
Інячай
І дрэвам тутавым
Шчэ зваць,
Даспелы плод
Інжыра
Ўбачыш —
Адразу
Хочаш
Паспытаць.

### К ЛЁН

Каля лесу,
Каля бору
Клён
Курчавы
Вецце гне,
Стройны стан
Бярозы белай
Ён лістотай
Ледзь кране.

### Л ІПА

Ліпа,
Ліпка,
Ліпкі-ліпкі
Тонкі
Кволенькі
Лісток.
Шэршань
Ледзь
Лістка кранецца —
Сок
Ліповы,
Як мядок.

(Працяг будзе).




*У кожнай істоты на Зямлі ёсць сваё дрэва. Гэта так. Дрэва называецца радаслоўным, ці сямейным. Каб не заблытацца ў дзядзьках, цётках, кузінах і кузенах, Дадо ўзяў фламастэры і намаляваў вось такі... баабаб.*

*Паспрабуй і ты намаляваць дрэва сваёй сям'і. У "акенцы" можна ўклеіць фатаграфіі. Калі трэба — прымалёўваць новыя галінкі.*



*Юля САЯНАВА ўмее рабіць мяккія цацкі. Яна займаецца ў гуртку*
*лёўскім Доме піянераў.*

*Фо*

## НАСТОЛЬН

*Дадо запрасіў цябе ў госці. Да твайго п*
*многа смачнага: арэхавы торт з узбіты*
*дзінг з варэннем, вішнёвы кампот з кост*
*But keep in mind that the holiday dinner*
*And Dodo is a great lover of practical jokes.*
*Правілы гульні ты, вядома, помніш: па*
*бік кідаюць па чарзе, рухуюцца па гульнёв*
*кубіку. Перамагае той, хто … ным пры*
*У дарогу!*

**Клетка 1.** Старт.

**Клетка 6.** Пачалося. Бачыш запіску ў дуп
brush. Dado".
Прыйдзецца вярнуцца на старт: каму ма
уласнай шчоткай.

**Клетка 12.** На абочыне дарогі плакат: "Ве
Ну адкуль у нашым лесе бегемоты ды яц
ходны шлях.

**Клетка 18.** Сябра Дадо, Вандроўны Клоун
ўзяў у памочнікі. Прапусці ход.

**Клетка 24.** На дарозе аднекуль узялося кр
"Няўжо гэта я?" — задумаўся ты. І думаў цэ

**Клетка 30.** На прыдарожным камені надпі
Brother Rabbit to a carrot".
Што ж, наперад, гэта значыць, назад.

**Клетка 36.** Нешта бясформеннае і белае
раптам прывід? Лепш абысці. Зварочвай на а

**Клетка 42.** Паказальнік вядзе на верхавін
Трэба лезці, а раптам важнае паведамленне.
be late. I'm waiting. Dodo".

**Клетка 50.** Дадо пераставіў паказальнікі і з
гай. На жаль, трэба звярнуць.

**Клетка 54.** Чуеш, страшны голас з зарасні
you say a verse!"
Расказвай, нікуды не дзенешся. Ты ж не в
ляе, прыяцеля Дадо з суседняга часопіса. До
цаваць.

**Клетка 60.** Ну вось і ўсё. Радасны гаспада

Good eating!

# ..КА: АД 4 ДА 14



..су "Чароўны клубок" пры Буда-Каша-..

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА, БелТА.

## АПОВЕСЦЬ МІНУЛЫХ ГАДОЎ

### СЕЛІ СЛАВЯНЕ ПА ДНЯПРЫ, ПАМІЖ ПРЫПЯЦЦЮ І ДЗВІНОЮ

Селі славяне па Дунаі, цяпер тут Вугорская (Венгерская) зямля і Балгарская. Ад тых славян і разышліся па зямлі славяне. І пачалі называцца яны паводле мясцін, дзе пасяліліся.

Тыя, што селі па рацэ Мараве, назваліся маравамі, а іншыя — чэхамі. А вось таксама славяне: харваты белыя, сербы і харутане. Калі на дунайскіх славян напалі волахі (рымляне), сталі жыць сярод іх і прыгнятаць, гэтыя славяне пайшлі і селі на Вісле і назваліся ляхамі, ад іх жа паходзяць палякі.

Гэткім чынам славяне пайшлі і селі на Дняпры. І назваліся яны палянамі, а тыя, што сярод лясоў сталі жыць, — драўлянымі. Славяне, якія рассяліліся паміж Прыпяццю і Дзвіною, завуцца дрыгавічамі. Па Дзвіне селі палачане, а назваліся яны так па рэчцы Палаце, што ўпадае ў Дзвіну.

Селі яшчэ славяне каля возера Ільменя і назваліся іменем сваім — славянамі. Пабудавалі горад яны і назвалі Ноўгарадам...

І так разышоўся па свеце славянскі народ, а па яго імені і грамата назвалася славянскай.

### БЫЎ ШЛЯХ ТУТ З ВАРАГАЎ У ГРЭКІ

Калі паляне жылі асобна па гарах, быў шлях тут з варагаў у грэкі, а з грэкаў — па Дняпры. У вярхоўях жа Дняпра — шлях волакам да Ловаці. Па Ловаці можна выйсці ў возера Ільмень. З яго выцякае Волхаў, што ўпадае ў вялікае возера Нява (Ладажскае возера). А вусце таго возера (рака Нява) упадае ў мора Варажскае (Балтыйскае мора). Па моры прыедзеш да Рыма, а з Рыма па тым жа моры да Царграда. Ад Царграда можна прыйсці ў Понтмора (Чорнае мора), куды ўпадае Днепр.

Днепр выцякае з Акоўскага лесу і цячэ на поўдзень. І Дзвіна з таго самага лесу цячэ, але ідзе на поўнач і ўпадае ў мора Варажскае. З таго ж лесу цячэ на ўсход Волга і ўпадае сямюдзесяццю вусцямі ў мора Хвалынскае (Каспійскае мора). А Днепр упадае вусцем у мора Пантыйскае. Гэтае мора вядомае як Рускае. Па яго берагах, кажуць, вучыў святы Андрэй, брат апостала Пятра.

### ЗАЗЗЯЕ ТУТ БОЖАЯ ЛАСКА — УЗНІКНЕ ГОРАД ВЯЛІКІ

Калі Андрэй вучыў у Сінопе (грэчаская калонія на беразе Чорнага мора), прыйшоў ён у Корсунь (старажытная назва Херсанеса, калоніі ў Крыме) і даведаўся, што паблізу ад Корсуня вусце дняпроўскае. І захацелася яму пайсці ў Рым. Прыплыў да вусця дняпроўскага і пайшоў уверх па рацэ.

Здарылася так, што спыніўся ён пад гарою на беразе. А назаўтра ўстаў і сказаў вучням, якія былі з ім:

"Ці бачыце гэтыя горы? Заззяе тут Божая ласка, узнікне горад вялікі і шмат цэркваў пабудуе ў ім Бог".

Затым падняўся на горы, благаславіў іх, паставіў крыж і памаліўся Богу. І спусціўся з гары, дзе ўзнік потым Кіеў, і пайшоў далей уверх па Дняпры.

Прыйшоў да славян, дзе цяпер Ноўгарад. Убачыў людзей, якія жылі там, іхнія звычкі, як мыюцца ў лазнях і хвошчуцца венікамі... і моцна здзівіўся.

З Ноўгарада ён пайшоў у варагі, а адтуль ужо — у Рым. І расказваў, як вучыў і што бачыў на шляху сваім:

"Ідучы сюды, дзіўнае бачыў я на Славянскай зямлі. Бачыў лазні драўляныя. Напаляць іх дачырвана, распрануцца дагала, абліваюцца квасам скураным і, узяўшы галлё маладое, б'юць сябе самі. Так моцна б'юць, што ледзь жывыя вылазяць. Аблiюцца сцюдзёнай вадою — толькі тады ажываюць. І робяць штодня так, без усякай прынукі, па сваёй ахвоце. Бо няма ў тым пакуты, а мыюцца так славяне".

Тыя, хто чуў гэта, здзіўляліся. Пабыўшы ў Рыме, Андрэй зноў пайшоў у Сіноп.

(Працяг будзе).

## ..НАЯ ГУЛЬНЯ

*..о прыходу ён усё вымыў, вычысціў і нарыхтаваў ..ымі вяршкамі, фруктовы салат, тварожны пу..стачкамі...*

*..er is to be qiven on the first of April, All Fools' Day. ..es. So the journey to his house may not be easy...*

*..патрэбны кубік і фішкі па колькасці ігракоў. Ку..ёвым полі на колькасць клетак, што выпала на ..ы.. ..е да дома Дадо на клетку 60.*

..упле. У ёй напісана: "Be sure and take along a shoe-

..магло прыйсці ў галаву, што ў госці трэба хадзіць з

..Beware of bad hippos in the forest. By-pass".
..яшчэ злыя? Але нічога не зробіш, паварочвай на аб-

..рун наладзіў на Паляне цэлае прадстаўленне, а цябе

.. крывое люстэрка. Нічога сабе, ну і фізіяномія ў ім.
..цэлы ход.

..піс: "Go back to square 25. You didn't think of treating

..ае маячыць. Вядома, можа быць гэта прасціна, але
..а абходны шлях.

..іну дрэва. Так і ёсць: там вісіць канверт з пісьмом.
..е. Цэлы ход ты ўзбіраўся на сасну, а ў пісьме: "Don't

.. і замест кароткай дарогі давядзецца ісці самай доў-

..нікаў: "Traveller, stop! I shall not let you go further until

..е ведаеш, што гэта голас папугая Жако, які размаў-
..Добра яшчэ, што ён не прымусіў цябе спяваць і тан-

..дар сустракае цябе каля ўваходу, час за стол.



**НОВАЕ ПРА УЛАДЗІМІРА КАРАТКЕВІЧА**

# «ПОДЫХ ЮНІ ЎХОДЗЯЧАЙ МАЁЙ...»

***Працяг гутаркі журналісткі Галіны ШАБЛІНСКАЙ з Музай СНЯЖКО, аднакурсніцай і сяброўкай юнацтва Уладзіміра КАРАТКЕВІЧА***

Валодзя, па натуры уніклівы даследчык гісторыі жыцця, адчуваў многія рэчы глыбей, чым мы. І ўжо тады ён разумеў усю бязглуздасць надуманых навук. Тут Караткевічу было складана. Складана ва ўзаемаадносінах. Такія лекцыі выклікалі ў яго нудоту. Ён казаў: "Я лепш пайду ў чытальню". А за наведваннем заняткаў у нас сачылі вельмі строга. За пропускі каралі. Трэба сказаць, стараста наша Ніна Наумава (жанчына гэта прайшла вайну) да Валодзі ставілася як маці. І калі ніхто асабліва не звяртаў увагі, магла яму пропуск нават не адзначыць. Але я паўтаруся: Валодзя не злоўжываў сваёй адсутнасцю на лекцыях.

Затое ён мог, седзячы ў аўдыторыі на занятках, намаляваць партрэт, напісаць вершы. Скажам, у нас з ім нейкая перапалка на першай палове лекцыі, а на другой гадзіне я атрымліваю ад Караткевіча свой партрэт-шарж з даравальным надпісам.

Мы тады шмат канспектавалі — падручнікаў не хапала, даводзілася пастаянна хадзіць у чытальныя залы. Дык я ўпэўнена, што часткі канспектаў у Валодзі не было. Таму што ў яго ўсё трымалася ў галаве. Тады я гэтага яшчэ не ведала. Не разумела.

Але нашы выкладчыкі, безумоўна, прыкмецілі Валодзю з першага курса. На той час у нас працавалі педагогі старой загартоўкі, сапраўднай прафесарскай. Гэта два браты Маславы — Васіль і Сяргей, Аляксандр Назарэўскі. Па сваіх дысцыплінах яны задавалі нам курсавыя работы. Я магу з пэўнасцю сказаць, што 90 працэнтаў нашых студэнтаў курсавую работу проста перапісвалі з розных крыніц. І рабілася гэта фармальна. Назарэўскаму трэба — мы яму здадзім. Назарэўскі быў вельмі далікатны чалавек. Ён не мог сказаць: "Мне здаецца, вы яшчэ не дараслі да стылю і ўзроўню ведаў, якія выкладзены вамі ў курсавой рабоце". І большасць гэтым карысталася. А пісалі творча адзінкі. І сярод іх — Валодзя. Ён абавязкова павінен быў схадзіць у бібліятэку, паглядзець усю літаратуру, пачытаць, падумаць, пагадзіцца ці не з прапанаванай пазіцыяй. І яшчэ абавязкова дадаць сваё.

На такіх студэнтаў выкладчыкі, канешне, рэагавалі. Яны імкнуліся з імі лішнюю гадзіну паразмаўляць. Яны, між іншым, самі мелі патрэбу ў інтэлектуальных субяседніках. Гэтыя людзі былі далёкія ад палітыкі ў тым нашым разуменні: я член партыі, я галасую і г. д. Затое яны ўсе вялікія інтэлігенты. Сустрэчы і гутаркі з імі — сапраўднае задавальненне і школа жыццёвай мудрасці. Але варта прызнацца, што вялі яны размовы не з кожным, праўда, помнілі ўсіх студэнтаў нашага факультэта. Ля корпуса універсітэта сустракаеш — ён абавязкова вітаецца і прыўзнімае капялюш. Перад студэнтамі іншага факультэта ён гэтага не робіць — значыць, нас усё-такі памятае. Аднак не больш таго.

Мы самі да выкладчыкаў не падыходзілі, не асмельваліся. Нам проста не хапала ведаў для размовы з імі. А Валодзя быў для іх цікавы субяседнік. Ён сам цаніў іх як прафесіяналаў і паважаў як людзей.

У гэты час Валодзя быў яшчэ юны, празрысты, галодненькі даволі часта, але перапоўнены ўласнымі думкамі і меркаваннямі. Такіх студэнтаў старыя выкладчыкі песцілі, яны імі займаліся. І калі б была не толькі іх воля, але і ўлада, яны, канешне, рэальна дапамагалі б лепшым студэнтам у навуковай кар'еры. На жаль, такой улады яны не мелі. Таму што сістэма адукацыі тады была зусім іншая. На першым месцы — грамадскія дысцыпліны, партыйнае кіраўніцтва, а потым ужо навука...



*Уладзімір Караткевіч з аднакурснікамі.*

— Існуе такая думка, што студэнту мала добра вучыцца, яму часам хочацца проста ўдачлівасці. Муза Яўгенаўна, як згадваецца сёння вам у гэтым сэнсе ваш аднакурснік Валодзя Караткевіч?

— Вяртаючыся ў думках у тое вельмі далёкае мінулае, цяпер пачынаеш разумець, а, напэўна, гэта было вось так... Мы займаліся ў асноўным у другую змену (зрэдку — у 3-ю), недзе з 14 да 20 гадзін. Зранку мы часцей сядзелі ў чытальнях, рыхтаваліся. Я не помню, каб Валодзя там бываў вельмі часта. Думаю, ён браў кнігі ў бібліятэцы і вучыўся ў сябе ў інтэрнаце. Ім было прасцей. Яны маглі карыстацца агульнымі канспектамі, кнігамі. Нам, кіяўлянам, прыходзілася складаней: не маеш падручніка — бяжыш туды, дзе яго давалі.

Валодзя ўмеў вучыцца спакойна, некрыкліва. І пры гэтым быў у ліку першых. Наш аднакурснік Фларыян Няўважны (блізкі сябар Караткевіча, паляк), наколькі я помню, працаваў бясконца. Ён заўсёды быў з кнігай, заўсёды чытаў. Караткевіч? Не ведаю... Ён быў з партфелем...

— Што за славуты партфель, раскажыце, калі ласка? Я ўжо столькі чула пра партфель студэнта Караткевіча!..

— Валодзя заўсёды хадзіў з партфелем, разумееце? Дарэчы, знешне Караткевіч на курсе выглядаў самым юным. Але пры сваім дзіцячым тварыку і рознакаляровых вачах ён быў высокага росту. Калі ён апранаў плашч — цела ўжо набывала нейкую вагу, нават самавітасць. І вось Караткевіч ідзе. Штаны запраўлены ў боты. Плашч. У руках партфель. Па-мойму, шараватага колеру. І, калі я зараз гляджу "Дзікае паляванне караля Стаха" — у туманах, шызай смузе, мне здаецца, гэты тон суправаждаў і самога Караткевіча ў студэнцтве. І пры такім уборы ў яго была няцяжкая, мерная паходка. Валодзя ішоў заўсёды спакойна, здавалася, што ён заняты толькі сваімі думкамі. Але, калі толькі ты падыходзіш да яго, ён адразу ажыўляецца, вітае цябе ўсмешкай, абавязкова — поціскам рукі, і далей пачынаюцца размовы. Такім чамусьці запомнілі Валодзю ўсе нашы аднакурснікі. І калі згадваюць пра Караткевіча, кажуць: о-о-о! партфель, боты, плашч, бобачка (кашуля)... Дарэчы, ніхто не кажа, ці хадзіў Валодзя ў паліто.

— Ніхто не памятае?

— Не. А ўсе памятаюць плашч і партфель. Хаця ёсць фотаздымак, на якім стаіць Караткевіч у паліто з каракулевым каўнерам.

Дык вось, вяртаючыся да вучобы. Калі наш Няўважны мог умудрыцца, нават седзячы ў кампаніі, прачытаць кнігу, то Караткевіч...

— На гэта не хварэў?

— Не. І Валодзя шмат чытаў, і Фларыян. Але Фларыяна ўсе бачылі, калі ён чытае,

— А Караткевіча не?

— А Караткевіча не бачылі. Я не магу растлумачыць гэты феномен. Валодзя ведаў не менш, чым Фларыян. Няўважны мог ісці па вуліцы з кнігай. Часам ён запрашаў мяне разам паабедаць. Ён меў талоны на харчаванне ў дыетычнай сталовай. А я заўсёды брала што-небудзь з сабою. Займаемся ў чытальні. Ён кажа: "Пайшлі сёння са мною абедаць, ёсць талоны". Адарваліся ад кніжак, пайшлі. Пакуль афіцыянтка прыносіць, я сяджу чакаю, а Фларыян... чытае кнігу. Караткевіч у такой сітуацыі...

— Не дазваляў сабе гэтага?

— Не. Пры ўсёй сваёй захопленасці чытаннем. Што яшчэ важна? Валодзя быў добразычлівым далікатным субяседнікам.

— Ён не падкрэсліваў сваю інтэлектуальную перавагу ў гутарках з аднакурснікамі?

— Ніколі. Бывала, ідзеш з ім доўга, шмат размаўляеш. І раптам ён адчувае, што табе прадмет гаворкі незнаёмы — ён пачынае расказваць. Прычым, не павучальна, а такім тонам, быццам ён упэўнены, што табе па гэтым пытанні вядома ўсё, і ён з табою проста дзеліцца сваімі думкамі.

Валодзя шмат расказваў мне па гісторыі Беларусі. Не ведала я гісторыю Беларусі — кажу гэта абсалютна шчыра. Так выкладалі нам курс гісторыі СССР ва універсітэце. Мы больш вывучалі Расію, курс гісторыі Украіны нам увогуле не чыталі (і гэта, заўважце, у сталічнай ВНУ рэспублікі!). І той, хто хацеў ведаць, вучыў гэта самастойна. Што Караткевіч і рабіў. Але сваімі ведамі не выхваляўся. Нават спасылаючыся на нейкага аўтара, ён пытаўся: ты, канешне, яго помніш? І пакуль ты ўзважваеш, ён расказвае і тлумачыць далей. Гэта не кожнаму чалавеку дадзена: такое тонкае пачуццё павагі да субяседніка, які ведае менш, чым ты.

Працяг.
Пачатак у № 49.

**АБРАННЕ ВЕЧНАСЦІ**

# Адам МІЦКЕВІЧ і Уладзімір НЯКЛЯЕЎ —

● **Алена ЯСКЕВІЧ,**
*кандыдат філалагічных навук.*

Ствараецца ўражанне, што ўся нíкляеўская інтымная лірыка — пакутлівы трэн, плач, але не як у Каханоўскага па дачцэ Аршулі, у Сматрыцкага па Маці-Царкве, нават не па адышоўшай каханай — Музе Лауры, як у Петраркі, ці пакінутай Беларусі — Літве і любай Марылі, як у Міцкевіча, — а па несустрэтай Музе сапраўднай любові-агапіі, яе нявыказаным, недасяжным ідэале-вышыні:

**Басанож прайду па пожні...**
**А па кім жа я заплачу**
**На мяжы, дзе цёмны стаў!**
**А па той, якой не бачыў,**
**Той, што ў свеце не застаў.**
**Па адзінай,**
**неспатканай,**
**Той, што Бог не даў спаткаць.**

На маю думку, паэзія Адама Міцкевіча цесна яднаецца з традыцыямі старабеларускага асветніцкага барока, таму і пачаў пісаць славуты навагрудзец з жанру балады. Магутны манументальны струмень баладнага кшталту прысутнічае і ў паэме Уладзіміра Нékляева "Прошча". Відаць, звышзадачай гэтай паэмы, магчыма і не ўсвядомленай аўтарам, але падараванай правідэнцыялізмам, сілай яго таленту нам як папярэджанне, сталася выкрыццё згубнасці галоўнай хваробы ўсіх постсацыялістычных, і ўсходнеславянскіх у тым ліку, грамадстваў, — падмурка ўсіх нашых пакут і няшчасцяў, — звычайнай чалавечай зайздрасці. Ці не гэтае пачуццё ўвесь час мучыла вар'ятку Матруну, нават у часе малітвы:

**Яна на калені ставала ў куце**
**На звон памаліцца —**
**І ўсё мармытала: "На згубу расце**
**Краса-Мілавіца"...**

абудзіла народныя хваляванні:

**На плошчы шторання натоўп віраваў,**
**Народ, князю любы,**
**І голас Матруны яго свідраваў:**
**"На згубу! На згубу!"**

У някляеўскай паэме, як тыповым барочным творы, дзеянне, імкненне індывідуума спазнаць сваю душу апярэджвае думку. Душы яго герояў, бы месца супрацьстаяння свету з яго прагай радасці і асалоды і злосці — цемрашальства, якая вядзе да Адыходу ў Нябыт. Сапраўды, ці не скруха аб дабрабыце бліжняга, узвышэнне, міласць да яго з боку уладаў, спрыянне яму (для Красы-Мілавіцы з боку маладога закаханага князя) — ці не была гэтая скруха штуршком да народнага хвалявання:

**Прамоўцамі, быццам балотная гразь,**
**Мясіліся словы.**
**— на згубу яе!**
**— І яго!**
**— Ён не князь!**
**— Ён зяць кавалёвы!**
**Разгублена варта стаяла наўзбоч,**
**Гатова прадацца.**

Лірычны герой У. Някляева ўсур'ёз задумваецца над антыноміяй тэадыцэі, апраўдання зла ў гэтым свеце, над згубнасцю пачуцця зайздрасці, якое, паводле свяціцеля Іаана Златавуснага, пагібельнейшае ад усялякае вайны, тая жарсць, якая ўзброіла братнюю руку на кроў праведніка, скасавала законы прыроды, адчыніла дзверы смерці, спрычынілася да выканання старажытнага праклящця яшчэ ад грэхападзення: каб сын памёр раней за бацьку, брат забіў брата і многіх адыход быў дачасны і прымусовы (дарэчы, лінія Каіна, Юды, Каяфы, Пілата знойдзе пазней развіццё ў паэме "Саракавіны"), — стымулявала бунт у краі, прымусіла смелага закаханага князя між ваяўнічых суседзяў, падбухтораных гэтай жа мярзотнай жарсцю, "закруціцца, як ваўчок, як воўк за сцяжкамі", "і з тварам, чарнейшым за чорную ноч", пагадзіцца на "параду дарадцы", каб нявеста занемагла ўначы ад зёлкаў Матруны.

Пародненасць лірычных герояў А. Міцкевіча і У. Някляева паўстае ў нейкім шчымлівым, амаль паскалеўскім бачанні свету, якое стала для еўрапейскай культуры сімвалам спрадвечнай духоўнай і інтэлектуальнай несупакоенасці, няўрымслівасці, сумленнасці і душэўнай чысціні. Паэты як бы выкрываюць сваіх герояў з мэтай большага разумення і анталагічнага апраўдання ў складаных жыццёвых варунках (згадаем някляеўскую вар'ятку Матруну з "Прошчы" і міцкевічаўскую Пані з "Лілеяў" — праз сюжэтныя рэаліі і яны самі сябе судзяць). Глыбіннае, аўтарскае, нібы паскалеўскае, пранікненне А. Міцкевіча і У. Някляева ў свет лірычных герояў узнікае не з паўсядзённай пошасці ці свецкай цікаўнасці, але са шчырага спачування, якое ад таго яшчэ больш пранíклівае, чым нават погляд самага спакушанага мараліста. Відаць, таму мы без абурэння пазнаем сябе ў люстэрку, якое яны нам працягваюць, — бы сродак міласэрнага лекавання душы, сапраўднай адкрытасці да болю бліжняга, яны падзяляюць трагічны лёс усяго чалавецтва, схіляючыся над яго ранамі, пры гэтым яны не саромеюцца адкрываць і свае шрамы, перш чым гаварыць пра заганы іншых, яны імкнуцца выправіць свае. Коштам перамог над уласным себялюбствам даруюцца вялікаму наваградцу і мудраму смаргонцу антынамічныя празрэнні і трагічныя памылкі, прага абсалютнага, найвышэйшага, коштам найвялікшых пакут і ўсведамленнем недасяжнасці апошняга ў жыцці:

**Прад веліччу Тваёй заўжды спыняе крокі**
**Жыхар тутэйшы й госць...**
**Пад брамаю нябёс, як стражнік зор**
**высокі,**
**Як Габрыель, сядзіш каля святога гмаху.**

І таму за эсхаталагічны лёт думкі лірычныя героі Міцкевіча і Някляева плацяць коштам уласных пакут, праз якія (для іх абодвух хвароба цялесная тоесная сзяту духоўнаму) ім даруюцца трапяткія адкрыцці-спасціжэнні:

**Да Бога дрогкая дарога...**
**Здарожаны, сабой самім**
**Зняможаны, шукаў я Бога**
**Ва ўсім, бо Ён і быў ва ўсім.**
**Яго ў спакусах прагла цела,**
**І дух быў з целам заадно,**
**А неба ямінкай цямнела —**
**І праступала ў небе дно.**

Гэты праграмны верш паэта пра пакуту цела і духа на пакручастых шляхах да Бога, калі душа чалавечая, бы фенікс, у пакаяльным вогнішчы спальвае ўласныя грахі і ўваскрасае, абнаўляецца, праз Літасць Божую ўзыходзіць да Усявышняга. Лірычны герой паэта не проста раскайваецца ў сваім жыцці, азмрочаным жарсцямі і жаданнямі, ён амывае душу, сваю знявечаную істоту жыватворнымі слязьмі пакаяння, якое, бы правідэнцыяльнае перараджэнне праз добрыя справы, мяняе і ягоны ўласны лёс, набліжае яго да Выратавання. Адбываецца змена, паводле Макса Вунта, свядомасных арыенціраў, духоўных ідэалаў пісьменніка, а таму і адкрыццё новых глыбінь у яго паэзіі:

**Над ямай неба стаўшы з краю**
**І ўбачыўшы сябе на дне,**
**Спытаўся я: "Каго шукаю!" —**
**І выдыхнула дно:**

Заканчэнне.
Пачатак у №№ 49—50.

**«НОВАЙ ЗЯМЛІ — 75»**

# «АДВЕЧНЫ ВОДГУК ПРАЎДЫ, ВОЛІ...»




*Вокладка першага выдання.*

● **Іван КУРБЕКА,**
*старшы навуковы супрацоўнік музея Якуба Коласа.*

**І ты, маё апавяданне,**
**Жыцця адбітак, разважання,**
**Нязжыты след прасцяцкай долі,**
**Адвечны водгук праўды, волі,**
**Ўжо бачыш дзень свайго змяркання...**
**І смутна мне: я жыў з табою**
**Адною думкаю, душою,**
**Насіў цябе, як носіць маці**
**Няясны воблік той дзіцяці...**

Гэтыя радкі ўзятыя з апошняга раздзела "Новай зямлі". Якуб Колас развітваўся са сваім творам. Прайшоўшы дарогамі і сцежкамі маленства і юнацтва, перажыўшы з героямі нягоды і радасці жыцця, ён рыхтаваў паэму да сустрэчы з чытачом. І яна, гэта сустрэча, адбылася ў 1923 годзе, калі твор выйшаў у свет асобнай кнігай.

**На свет радзілася бурліва**
**Яшчэ далёкаю вясною**
**За мураванаю сцяною**
**Ў няволі жудаснай астрога,**
**Калі над намі ноч-аблога**
**Навісла цемраю густою**
**І гнула цяжкаю пятою,**
**Як неадхільная навала,**
**Усё, што жыцце асвятляла.**

"Калі я сядзеў у астрозе, — успамінаў паэт, — перада мною вельмі ярка паўсталі малюнкі маленства, прыроды. Я не думаў тады яшчэ аб напісанні паэмы. Хацелася проста расказаць аб тым, што так маляўніча паўстала ў маёй памяці. Я апісаў леснікову пасаду. Затым з'явілася жаданне напісаць большае. Так паступова вырастала "Новая зямля".

Памяць народнага песняра і яго магутны талент захавалі і данеслі да нашых сэрцаў яркую карціну жыцця селяніна-працаўніка з яго штодзённымі турботамі і хваляваннямі, з яго звычаямі і традыцыямі. Спрадвечныя імкненні сялянства да зямлі і волі складаюць змест "Новай зямлі". Мары і думы Коласавага бацькі Міхала набыць уласны кавалак зямлі ("Купіць зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут") уласцівыя былі ўсяму сялянству таго часу.

"Новая зямля" — адна з найярчэйшых старонак беларускай літаратуры, адзін з самых выдатных твораў Якуба Коласа. Яна жыве непаўторнай сілай таленту вялікага паэта, які выявіў незвычайную глыбіню арганічнай еднасці з жыццём народа, з яго самабытным духоўным складам.

Гаворыць народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч:

"Якуб Колас падарыў народу, падарыў назаўсёды, на вякі гэты самы вялікі і самы прыгожы плён сваёй творчай працы. Сам Колас сціпла назваў гэту кнігу — "Новую зямлю" — паэмай. Нашы навукоўцы называюць яе першым беларускім раманам. Я асабіста думаю, што гэта — своеасаблівы наш эпас. Гэта не адна паэма. Трыццаць раздзелаў кнігі — гэта, мабыць, трыццаць паэм, кожная з якіх прысвечана пэўнай тэме, разам яны ўсе ахопліваюць жыццё беларускага народа, перш за ўсё сялянства, але не толькі, ва ўсёй паўнаце. Па гэтай кнізе можна сапраўды вывучыць, вывучаць жыццё нашага народа, сам народ, беларуса, душу яго, характар, мараль, філасофію".

Пісалася паэма на працягу дванаццаці гадоў. Дзесяць раздзелаў створаны ў мінскім астрозе, дзе Якуб Колас у 1908—1911 гадах адбываў пакаранне за ўдзел у нелегальным настаўніцкім з'ездзе і за рэвалюцыйную работу сярод сялянства. Астатнія раздзелы былі напісаны ўжо на волі. Апошні, трыццаты, ствараецца на зломе 1922—1923 гадоў.

З 1912 года "Новая зямля" публікавалася ў газетах "Наша ніва" і "Вольная Беларусь", у часопісе "Вольны Сцяг", у літаратурна-навуковым весніку Інбелкульта "Адраджэнне". 17 раздзелаў, гэта значыць, большая частка паэмы не друкаваліся і ўпершыню пабачылі свет у першым выданні цэлага твора. У 1927 годзе было другое выданне, у 1934-м — трэцяе. Чацвёртаму перашкодзіла вайна. Адзіны ацалелы экземпляр, сігнальны, цяпер захоўваецца ў Коласавым доме. Ён падораны аўтарам настаўніцы Аляксандры Жукоўскай, былой студэнтцы Белпедтэхнікума, дзе ў 20-я гады пісьменнік выкладаў методыку роднае мовы.

Розныя водгукі ў чытачоў займела Коласава паэма. У 1920 годзе, параўноўваючы будучую "Новую зямлю" з "Яўгеніем Анегіным" Пушкіна і "Панам Тадэвушам" Адама Міцкевіча, Максім Гарэцкі падкрэсліваў, што раздзелы паэмы — "самыя мастацкія і нацыянальныя кавалкі ў паэзіі Якуба Коласа". У 1922 годзе станоўча гаварыў пра яе акадэмік Яўхім Карскі. "Новая зямля", — пісаў вучоны, — твор яшчэ не закончаны, але ён дае многа новага для характарыстыкі паэтычнага таленту Міцкевіча і выклікае надзеі, што ў аўтары яго мы ўбачым неўзабаве рознабаковага беларускага пісьменніка з тонкай назіральнасцю і псіхалагічным аналізам".

Высокую ацэнку паэме пасля яе выхаду ў свет даў вядомы вучоны Іван Замоцін. Вульгарызатарскай трактоўцы вобраза Міхала, ідэі "Новай зямлі" даследчык супрацьпаставіў сцвярджэнне, што Міхалава "думка аб шматку зямлі не проста сялянская туга па сваёй уласнасці: яна запала ў сэрца беларуса, як прамень волі і свабоды", бо з ёю звязаны нястрымны парыў да творчае працы і наогул да новага быту".

"Новая зямля"... Як многа нам гавораць гэтыя два простыя словы! Вось ужо колькі дзесяцігоддзяў паэма хвалюе людзей розных узростаў праўдай жыцця, самабытнасцю і непаўторнасцю. Яе чытаюць, вывучаюць. Крытыкі і вучоныя пішуць даследаванні. Не абыходзяць паэму ўвагаю мастакі і кампазітары. Да 100-годдзя з дня нараджэння песняра быў створаны тэлефільм (рэжысёр Уладзімір Траццякоў), напісана опера "Новая зямля" (аўтар Юрый Семяняка). Яшчэ перад Айчыннай вайной кампазітар Мікалай Равенскі на радкі з паэмы напісаў дуэт, а значна пазней, у наш час, Ігар Лучанок падарыў беларусам хвалюючую песню "Мой родны кут". Задушэўна яе выконвае Данчык.

Вабіць людское вока "Сцяжына новазямельцаў", што вядзе ад шашы Стоўбцы — Мікалаеўшчына да леснічоўкі Альбуць. Па ўсёй дарозе пастаўлены драўляныя выявы герояў і персанажаў славутай паэмы.

"Калі б патрэбна было для будучых часоў пакінуць толькі адзін твор, які б даў уяўленне аб тым, што такое беларускі народ, хіба не "Новую зямлю" назваў бы кожны з нас! — гаварыў Алесь Адамовіч. — "Новая зямля" належыць да тых шэдэўраў мастацтва, пра якія ніколі не будзе сказана апошняе слова. Такі лёс мастацкіх твораў, сапраўды эпахальных".



*На вечарыне ў Доме літаратара ў гонар 75-годдзя "Новай зямлі" выступае фальклорны ансамбль "Мінскі гармонік".*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.*

# АДНАДУМЦЫ ПРАЗ СТАГОДДЗІ

**— Мяне.**

У. Някляеў сведама апошні радок — асабовы займеннік "мяне" — ставіць, відавочна, у пазіцыю асноўнага сэнсавага націску, стрыжня верша, — у пазіцыю, калі б яно абавязкова пісалася з вялікай літары, — чым і падкрэслівае ўсемагутнасць, усеахопнасць, усепрысутнасць Бога, Прасвятой Тройцы. Духоўныя пошукі сучаснага беларускага паэта выразна высвечваюць тыпалагічна адваротную (ад проціleглага, пра што мы ўжо гаварылі, згадваючы лірыку Петраркі) уласцівасць яго творчай лабараторыі ў наследаванні сусветных традыцый, дарэчы, гэта засведчыў і сам аўтар у паэме "Індыя":

**Не ў голас ён сказаў: "Ты з тых,**
**Чый шлях — зваротны.**
**Да чужых**
**Святых**
**ты рушыў са сваімі".**

Нават, нягледзячы на падабенства тэм, вобразаў, слоў, свет кахання лірычных герояў Някляева:

**І тая травінка, што ў сне да мяне**
**прытулілася,**
**Таксама травою стамілася быць у траве,**
**Ды ўсё так сплялося, звязалася,**
**перакруцілася —**
**Бог разарве,.. —**

у нечым проціleглы, нават паводле прарадыгматычна-сінтагматычнай вершаванай структуры, міцкевічаўскаму:

**О не! У свет прыйшлі адно для**
**аднаго мы.**
**Заззяла зорка нам адна з нябеснай**
**стромы.**
**Мы аднадумцы, хоць раслі не разам**
**з ёю,**
**Адных гадоў, падобны нават між сабою.**
**Адны і тыя ж мроі з ёю мы снавалі,**
**Адны і тыя ж нас пачуцці саграваЛі.**
**Ва ўсім нас нешта непасціжнае яднала.**
**Бог завязаў вузлы, а ты іх разарвала.**

Паэма А. Міцкевіча "Дзяды", акрамя памінальных матываў, імкнення пазбавіць душы продкаў ад розных перашкод і клопатаў, якія прычыняюць адлучаным ад цела душам злыя духі, гаворачы словамі старабеларускага пісьменніка Захарыі Капысценскага, "як чыноўнікі на мытні, турбуюць кожнага вольнага падарожнага на таможнях і заставах":

**Гэй, чысцовыя ўсе душы!**
**Адусюль сюды імчыце:**
**Вас мы ўсіх як ёсць чакаем.**
**З намі сядзьце, пагасцеце —**
**Сёння ж мы Дзяды спраўляем!**
**Вас сустрэць мы ўсе гатовы:**
**Ёсць пітво, ёсць пачастункі,**
**Сэрцаў шчодрыя дарункі,**
**А яшчэ малітваў словы...**

Гэта і даніна ўдзячнасці роднаму краю, успрыманне сваіх продкаў як векавечных носьбітаў гонару і славы Айчыны, светачаў-правідцаў:

**Братва! Ягоны дух у небе дзесь блукае!**
**Ён мусіць будучыню нашу там чытае.**
**Ці з духамі знаёмымі спаткаўся ў зорах**
**І раскрывае тайны ўсе ў нямых**
**прасторах.**

Параўноўваючы сучаснае жыццё з мужнымі, дабрадзейнымі постацямі нашых продкаў, лірычны герой Някляева ніяк не можа пазбавіцца пачуцця віны:

**Віноўнай быць душа**
**хіба павінна,**
**Не цямячы, у чым яе віна!**
**Ды звадамі змучоная да дна,**
**Нібы святкуе — так баліць яна.**
**Прыйшла пара спраўляць саракавіны.**
**На дно душы**
**не ў час і неўпапад**
**Кідаў я нерат, каб пазбыцца звад,**
**Але віна вірамі рвала нерат,**
**Віна мне вочы рэзала, як шкло;**
**Не ўбачыўшы нічога, што б магло**
**Віну суняць, суцішыць, супакоіць,**
**Пазваў я тых, каго ўжо не было,**
**І тых, хто будзе — у маё жытло,**
**І цені іх напоўнілі пакоі,..**

бо рэдкі з сучаснікаў можа сказаць пра сябе: "З нянавісці — пасля ўжо з усяго астатняга... А (я) пачаў з любові".

Ад тэмы памяці агульначалавечай, родавай У. Някляеў у паэме "Саракавіны" звяртаецца да памяці пракаветнабеларускай, сцвярджаючы ўслед за А. Міцкевічам у "Конрадзе Валенродзе" ("Сказ наш народны! Каўчэг прымірэння Сённяшніх часоў з даўнейшай парою!"), што пісьменства — гістарычна цэласны арганізм, і ацаніць сучасны стан, патэнцыі развіцця нацыянальнага слова (пазбавіцца статуса "народа, які прамаўчаў сваю дзяржаву"), увогуле колькі-небудзь паспяхова ствараць айчынную культуру немагчыма без уліку старажытнага перыяду эвалюцыі, без памяці пра карані:

**Канец тады, як спрахнуць карані.**
**Ад забыцця Гасподзь абарані**
**Крывіцкі род, смаргонскі люд**
**ды крэўскі,**
**Вярні ўсіх крэўных на пустыя крэслы,**
**За памінальны стол усіх вярні.**

І як міцкевічаўскі Конрад Валенрод, апантаны подзвігам дзеля вызвалення Айчыны-Літвы, так і някляеўскі Званар заклікае да вызвалення-ачышчэння ад сучасных грахоў і пошасцей у гаючых водах крывіцкай Прошчы:

**Мітынговыя вуліцы, поўныя**
**ярасцю плошчы**
**Я пакіну аднойчы і рушу да возера**
**Прошчы,**
**Што сінее на роднай зямлі васільком**
**на радне**
**І царкву са званіцай ашчадна хавае на**
**дне.**
**Па збалелай дарозе**
**з камянём непазбаўнай віны**
**Я ўвайду ў тое возера і разгайдаю**
**званы...**

Шлях лірычных герояў А. Міцкевіча і У. Някляева, як і геніяльнага дуброўніцкага паэта XVII стагоддзя Івана Гундуліча, — гэта вяртанне біблейскага блуднага сына (пар. у Гундуліча "свилу облачим, цветак носим, ресим лице, косе рудим", у Міцкевіча "я сэрца аддаю — ды там рука чакана, а мной апетая пытае, ці багаты", у Някляева "палюбоўніца... жонка... жабрачка... вар'ятка... сястра"). Векавечная існасць Евангелля, пакутліва-горкая мудрасць Саламона, плач Ераміі (Плетнев Р. В. Дж. Ф. Гундулич и его "Слёзы блудного сына", как художественная вершина югославского барокко) лучацца з асабістым пакаяннем герояў у акце нараджэння сапраўднай паэзіі, бо, па найвялікшым рахунку, мэтай яе толькі і з'яўляецца не адноснае стварэнне — захаванне імгнення, але ўваскрашэнне, бессмяротнасць архетыпічна нацыянальнага праз урыўкі-асколкі пакаяльных мітрэнгаў уражлівай душы:

**Як бы мы ні шалелі ў натоўпах**
**ад лютых страсцей,**
**Паміж намі нямашака прышлях,**
**нязваных гасцей,**
**Толькі мы**
**паміж намі —**
**і нам не над прорваю жыць,**
**А над Прошчаю жыць.**
**Так нядоўга,**
**як свечка гарыць.**

Лірычны герой У. Някляева нібы прымушае кожнага з нас да ачышчэння індывідуальнага, заклікае заглыбіцца ў сябе, надаць чуйнасць вушам свайго сэрца, пачуць голас уласнага замерзшага сумлення, каб ўратавацца ("Страшны Суд... усё бліжэй — што будзе на Судзе?..") ці хаця б наблізіць да Збавення сябе, бліжніх, Айчыну, і ў спрадвечнай барацьбе Светлага Жыцця і Змрочнага Адыходу абраць Вечнасць.

ГАЛЕРЭЯ МАЙСТРОЎ МАРГАРЫТЫ СТАРЫХ

*Падчас юбілейнай выставы Марка Шагала ў Віцебску адбылася падзея, якая выклікала вялікую цікавасць віцябчан, знаёмых да ўсяго, што звязана з культурай і гісторыяй іх слаўнага горада. Вядомы швейцарскі калекцыянер Генрых Камацкі, які прыехаў у Віцебск з выпадку выставы, падараваў шагалаўскаму музею 4 літаграфіі майстра і купіў 2 работы... мясцовых мастачак-сясцёр.*

*Але мала хто з іх ведаў, што яшчэ раней каралева англійская Елізавета таксама папоўніла сваю калекцыю дзвюма шкатулачкамі з жывапіснай мініяцюрай адной з сясцёр — Вольгі Івановай.*



## Вольга ІВАНОВА:

# «ІМКНУСЯ ДА ДЫЯЛОГА З ЧАСАМ І ЛЮДЗЬМІ»

Вольга ў недалёкім мінулым — архітэктар, а зараз цікавая мініяцюрыстка. Дарэчы, усе, каму даваўся трымаць у руках яе шкатулачкі з роспісам на тэмы старога Віцебска ці беларускіх замкаў, адразу ж адчуваюць грунтоўнае веданне аўтарам гэтай тэмы. Напэўна, і па сённяшні дзень Вольга працавала б у адной з архітэктурных майстэрняў горада, калі б не скарачэнне штатаў з-за адсутнасці заказаў. Але пакінем гэту сумную главу яе жыцця... Галоўнае ў тым, што, пагараваўшы, яна знайшла сілы і грошы зарабляць, і творчасцю займацца. Апошняе з некаторага часу стала пераважаць над усім астатнім.

Вольга прызнаецца, што яе новае захапленне — гэта магчымасць дыялога, які яна вядзе з часам і людзьмі. А тое, што гістарычныя сюжэты займаюць такое значнае месца ў яе жывапісных мініяцюрах, — справа не столькі ў архітэктурнай адукацыі, колькі ў жаданні "матэрыялізаваць" гісторыю, наблізіць да яе сучаснікаў. Жаданне гэта нарадзілася не само па сабе і звязана ў некаторай ступені з яскравымі ўражаннямі дзяцінства — рэпрадукцыямі работ галандскіх мастакоў братоў Лімбургаў.

Дарэчы, калі Вольга Іванова занялася жывапіснай мініяцюрай, то першае, што яна зрабіла, — гэта паўтарыла галандцаў, папярэднікаў Пітэра Брэйгеля, дазволіўшы сабе адзінае адступленне — аб'ёмную перспектыву замест плоскаснага відарыса, які характэрны для перыяду Лімбургаў. А потым быў яе любімы Шагал, яго ранняя серыя "Палюбоўнікі" і Віцебск мінулага стагоддзя. Вользе няцяжка было спачатку ўявіць, а потым у саму мініяцюру "ўпісаць", "паставіць" на месца ўжо не існуючыя цэрквы, гарадскія пабудовы, якія некалі ўпрыгожвалі горад. Дапамагалі ёй у гэтым і малюнкі, акварэлі мастакоў Орды і Пешкі. У выніку старажытны незвычайна прыгожы Віцебск у шкатулачнай серыі Вольгі Івановай імгненна пазнаецца ўсімі, хто хоць аднойчы пабываў у гэтым горадзе.

Стары Віцебск — невычарпальная і любімая, але не адзіная тэма ў творчасці мастачкі. Вольгу прыцягвае серыя "Поры года", створаная ў XVII стагоддзі беларускім мастаком Аляксандрам Тарасевічам, яна вельмі ўдала пераводзіць яе ў сваю жывапісную мініяцюру. Барбара Радзівіл, каралева Бона, кароль Жыгімонт, слаўтыя Агінскі, Касцюшка — партрэты шматлікіх гістарычных дзеячаў таксама ўваходзяць у кола тэм і інтарэсаў мастачкі.

А яшчэ яна вельмі любіць народную музыку, танцы. Яе фальклорныя серыі выпраменьваюць мяккі гумар, весялосць народнага гуляння, тую атмасферу, якая, на шчасце, яшчэ не страціла нацыянальны каларыт, маляўнічасць.





У мінулым годзе ў Вольгі і яе сястры Наташы (займаецца графікай) у мастацкім музеі Віцебска была персанальная выстава, якая мела вялікі поспех. Плануюцца дзве аналагічныя выставы ў прыватных галерэях Галандыі і Германіі. Як відаць, усё ў жыцці Вольгі Івановай складваецца не так ужо дрэнна. І тым не менш бываюць хвіліны сумнення, незадаволенасці. У час апошняй нашай сустрэчы яна прызналася:

— Зайздрошчу мужчынам-мастакам, якія могуць ад усяго адасобіцца, каб "тварыць" і выстаўляцца па некалькі разоў на год, пасмейваючыся з такіх, як я: "жаноцкае мастацтва", "цацкі"...

Але мне здаецца, гэты хвілінны настрой як прыйшоў, так і знікне, бо Вольга — моцны чалавек, а творчасць — сутнасць яе жыцця.

Ды і перад гэтым прызнаннем было іншае: "Я поўная сіл, надзей, упартасці..."

*P. S. І зусім апошняе. Нядаўна ў Мінску ў Літаратурным музеі, што ў Траецкім прадмесці, з поспехам прайшла персанальная выстава мастачкі-мініяцюрысткі з Віцебска.*







*Фота Марыі ЖЫЛІНСКАЙ.*

Голас Радзімы

Рэдакцыйная калегія

Заснавальнікі:

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь; Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі; Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).

Тыраж 1 625 экз. Індэкс 63854. Зак. 2248.

Падпісана да друку 14.12.1998 г. у 12.00.

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

Наш адрас:
220005, Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны:
(+375-17) 213-31-97,
213-32-80, 213-30-15,
284-76-56, 213-37-82.